Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 75 (5406)
Субота, 22 чэрвеня 2002 года

# Прыйшоў час новага пакалення, якое патрабуе перамен

**_Дзевятнаццатага чэрвеня выпускнікі сярэдніх агульнаадукацыйных школ рэспублікі здавалі свой апошні школьны экзамен, а дваццатага, падчас выпускных вечароў, атрымалі першыя сур'ёзныя дакументы - атэстаты._**



Звычайна, нават традыцыйна, выпускныя вечары праходзяць адвячоркам (на тое ён і "вечар"). Восьмая ж гімназія сталіцы сёлета вырашыла правесці эксперымент - вельмі моднае слова ў школьных колах. Эксперымент гэты не навучальны, а арганізацыйны. Тут атэстаты сталасці ўручылі раніцай, падчас урачыстай лінейкі. Як пасля заканчэння гэтай цырымоніі сказала дырэктар Святлана Сямёнаўна Важнік: "Неабходна весці барацьбу са стэрэатыпамі. Прыйшоў час новага пакалення, якое патрабуе перамен". Да новага заўсёды падыходзяць крытычна, нават, можа, скептычна, але, па-мойму, эксперымент удаўся - новая форма надала ўжо вельмі звыкламу зместу па меншай меры неардынарнасць, хоць гучала шмат традыцыйных слоў падзякі ад настаўнікаў, вучняў і бацькоў. Да таго ж урачыстасць не была сапсавана нагэтулькі ж традыцыйным застоллем. Як гаворыцца, усё было на ўзроўні.

Калі казаць пра змест гэтага мерапрыемства, то яно прайшло па ўжо дастаткова звыклым сцэнарыі. Тым не менш быў урачысты зварот дырэктара гімназіі да сваіх выпускнікоў. Яна падкрэсліла, што ў іх жыцці настаў амаль што самы шчаслівы дзень, бо "...ужо за плячыма адзінаццаць школьных гадоў і экзамены". Так то яно так, але наперадзе таксама шчасце яшчэ будзе. Ад атрыманай прафесіі, ад самой работы, ад сям'і і г.д. Выпускнікі гаварылі словы падзякі сваім настаўнікам, бацькам за дапамогу і цярпенне, шкадавалі, што прыйдзецца расставацца са школьнымі сябрамі. Словы падзякі ліліся і ад бацькоў. А потым - у руках жаданыя атэстаты, пахвальныя лісты і медалі - узнагароды за адзінаццаць гадоў працы.

Восьмая гімназія Мінска з'яўляецца гуманітарнай (лінгвістычнай) і ўваходзіць у пяцёрку лепшых гімназій сталіцы. У гэтым годзе з яе сцен у дарослае жыццё выйшлі сорак два хлопчыкі і дзяўчынкі - выпускнікі класаў 11 "А" і 11 "Б". Сярод іх шасцёра атрымалі залатыя медалі, трое - атэстат з аднымі пяцёркамі (у старшых класах вучыліся толькі на "выдатна"). Якасць ведаў у гэтых класах ажно сто пяцьдзесят сем працэнтаў! У "А" класе - гэта дзевяноста чатыры, у "Б" - шэсцьдзесят тры.

Наперадзе - зноў выпрабаванні. Яны ўжо не агульныя, як у школе, а ў кожнага свае. Трэба рабіць выбар. Пасля ўрачыстацей мне ўдалося некалькі чалавек угаварыць падзяліцца сакрэтамі, што ж з імі будзе далей. Дзве дзяўчыны сціпла прызналіся, што мараць паступіць у медыцынскі інстытут з высакароднай мэтай - лячыць, дапамагаць людзям. А вось вельмі прадстаўнічы, ужо былы вучань 11 "А" класа Вадзім Луцкі з гонарам паведаміў: "Я збіраюся паступаць у Еўрапейскі гуманітарны універсітэт. Хачу стаць эканамістам, каб дапамагчы сваёй дзяржаве. Спадзяюся, што не застануся без працы, а дзяржава сапраўды будзе мець патрэбу ў такім спецыялісце. Буду паступаць на франка-беларускі факультэт, і, наколькі мне вядома, выпускнікі гэтага факультэта не папаўняюць шэрагі беспрацоўных".





Вось яна - наша ўпэўненая і прагматычная будучыня. Застаецца ім пажадаць толькі поспехаў і сказаць традыцыйнае: "У добры шлях!"

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

## Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №316

### АБ ПРЫСВАЕННІ І.Л.БАРЫШАВУ І Ж.В.ЮШКО ГАНАРОВАГА ЗВАННЯ "ЗАСЛУЖАНЫ ТРЭНЕР РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ"

За шматгадовую плённую працу па падрыхтоўцы спартсменаў вышэйшага класа, значны ўклад у развіццё фізічнай культуры і спорту прысвоіць ганаровае званне "Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь":

**Барышаву Ігару Леанідавічу** - трэнеру-выкладчыку па спартыўнай гімнастыцы спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву №1 аддзела адукацыі Віцебскага гарвыканкама;

**Юшко Жанне Валер'еўне** - старшаму трэнеру-выкладчыку аддзялення акрабатыкі спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву №4 Гомеля.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.Лукашэнка.**

г.Мінск.
17 чэрвеня 2002г.

Навіны

## Расце колькасць бюджэтных месцаў

**_Забеспячэнне кантролю за падрыхтоўкай да прыёму ў медыцынскія навучальныя ўстановы абмяркоўвалася на рабочай нарадзе, якая адбылася ў Міністэрстве аховы здароўя Рэспублікі Беларусь пад старшынствам в.а. Міністра аховы здароўя Людмілы Пастаялка. Было адзначана, што медыцынскія навучальныя ўстановы да ўступнай кампаніі 2002 года поўнасцю гатовы._**

У гэтым годзе колькасць бюджэтных месц для паступлення ў медыцынскія ВНУ рэспублікі павялічылася на 7;8 працэнта ў параўнанні з папярэднім годам. Па 20 месц дабавілася ў медыцынскіх універсітэтах Мінска і Віцебска, па 15 - Гомеля і Гродна. Больш таго, у сярэднім на 10 працэнтаў павялічыўся мэтавы набор. Ён складае ў гэтым годзе палавіну ад агульнай колькасці бюджэтных месцаў.

На нарадзе разглядаўся і шэраг іншых важных пытанняў. Адно з іх датычылася больш стараннага адбору кандыдатур для выдачы мэтавых накіраванняў. Гэта павінна садзейнічаць павышэнню якасці ведаў.

**Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

## Эканоміка адукацыі ў дзеянні

**_Астравецкі райвыканкам зацвердзіў пералік платных паслуг, якія будуць аказваць школы і іншыя органы адукацыі. Да пачатку новага навучальнага года застаецца яшчэ шмат часу, а ў Астравецкім раёне ўжо ведаюць, як школы і іншыя органы адукацыі будуць зарабляць фінансавыя сродкі для свайго развіцця._**

Райвыканкам прыняў наконт гэтага спецыяльнае рашэнне, зацвердзіў прыкладны пералік платных паслуг. За пэўную плату ў школах будуць вучыць харэаграфіі, прыкладному мастацтву, швейнай справе, замежнай мове ў дзіцячых дашкольных установах і малодшых класах. Платнымі стануць аказанне паслуг для сямейных урачыстасцей на базе навучальных устаноў, работа груп "выхаднога дня" ў дзіцячых дашкольных установах, арэнда спартыўных залаў і іншых памяшканняў, экскурсіі ў школьныя музеі. Плаціць цяпер давядзецца таксама за выдачу дублікатаў дакументаў аб адукацыі ўзамен згубленых, камп'ютэрныя паслугі, псіхалагічнае тэсціраванне, аказанне рэпетытарскіх паслуг па падрыхтоўцы для паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, пракат спартыўнага турыстычнага інвентару, некаторыя іншыя паслугі. Раённыя ўлады зацвердзілі палажэнне аб платных паслугах. Згодна з ім памер платы ўстанаўліваецца саветам установы адукацыі па ўзгадненні з бацькоўскім камітэтам і можа быць розным для кожнага віду, аднак не менш за 0,5 і не больш як 2 мінімальныя зарплаты за адну паслугу ў месяц. Ад платы вызваляюцца дзеці-сіроты, на 50 працэнтаў - дзеці з мнагадзетных сем'яў.

## Без падручнікаў не застанемся

**_Над стварэннем навучальнай літаратуры ў нашай краіне працуюць амаль дзве тысячы аўтараў. А кожны год у школы паступаюць каля 300 яе назваў. Усяго ж з 1994 па 2001 гады ў рэспубліцы выдадзена тры тысячы назваў падручнікаў і навучальных дапаможнікаў. Такія даныя былі прыведзены ў час пасяджэння "круглага стала" на тэму "Мова, адукацыя і час", якое адбылося ў Нацыянальным інстытуце адукацыі 19 чэрвеня._**

Тут было адзначана, што праблема аўтарскіх калектываў з'яўляецца даволі вострай. Знайсці новых і зацікаўленых людзей складана. Разам з тым толькі над стварэннем школьных выданняў па беларускай мове і літаратуры працавалі 34 аўтарскія калектывы. Дарэчы, на думку дырэктара Інстытута Мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандра Падлужнага, якасці гэтых падручнікаў можна паставіць высокую адзнаку. Адзінае, з чым ён не згодны, - вялікі аб'ём кніг і адсутнасць у іх імёнаў некаторых беларускіх пісьменнікаў.

Цяпер працуе дзяржаўная камісія па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы. І, як прагучала на пасяджэнні "круглага стала", свае заяўкі на ўдзел у гэтым працэсе падалі каля 20 аўтарскіх калектываў.

**(Па матэрыялах БелТА.)**

**_Дзецям уласцівы ў зародку ўсе моцныя пачуцці, трэба толькі ўмець выкарыстоўваць іх правільна, каб зрабіць дзяцей здатнымі на ўсё добрае, вялікае, карыснае, высакароднае._**

**Т.Дэзамі.**

Весткі з Іўеўшчыны

## Практыка, вартая ўвагі

**_Па ініцыятыве аддзела адукацыі Іўеўскага райвыканкама на базе школ раёна пад кіраўніцтвам дацэнта кафедры кіравання і арганізацыі адукацыі Гродзенскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі Т.Голікавай і метадыста М.Ісачанка праведзены семінар кіраўнікоў метадычных аб'яднанняў настаўнікаў пачатковых класаў. Ягоная тэма - "Рэгіянальныя асаблівасці сістэмы выхавання малодшых школьнікаў у сучаснай сацыяльна-культурнай сітуацыі"._**

Удзельнікі семінара мелі магчымасць наведаць Геранёнскую, Трабскую сельскія і Іўеўскую гарадскую сярэднія школы і азнаёміцца з цікавай, разнастайнай і высокаэфектыўнай вучэбна-выхаваўчай работай і яе асаблівасцямі.

З мэтай паспяховай рэалізацыі Канцэпцыі спецыяльнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь, павышэння кваліфікацыі даволі значнай колькасці выхавальнікаў груп прадоўжанага дня былі праведзены выязныя курсы для 52 настаўнікаў класаў інтэграванага навучання, 28 выхавальнікаў груп прадоўжанага дня.

Курсы правялі супрацоўнікі Гродзенскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі Г.Голікава, Г.Бірыч, Н.Карвацкая, Е.Вараб'ёва, Г.Хмяльніцкая і інш.

Згодзімся, што такая практыка вартая не толькі адабрэння, увагі, але і пераймання: яна дае магчымасць эканоміць дзяржаўныя сродкі на камандзіровачныя расходы. Ды і педагогі не адрываюцца на значны час ад сям'і, хатніх і школьных спраў, таму яны вельмі задаволены такой практыкай і ўдзячны кіраўніцтву раённага аддзела адукацыі за праяўленую ініцыятыву.

## Клопат пра здароўе дзяцей

**_У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пацярпеў і Іўеўскі раён. Сёння 40 працэнтаў школьнікаў жывуць на тэрыторыі перыядычнага радыяцыйнага кантролю, а дзве вёскі карыстаюцца правам на адсяленне. Таму здароўю дзяцей, іх адпачынку і аздараўленню ўдзяляецца вельмі вялікая ўвага з боку мясцовай улады і аддзела адукацыі райвыканкама._**

У бягучым годзе аздароўлены ў санаторыях-прафілакторыях 1440 вучняў і 29 выхавальнікаў дашкольных дзіцячых устаноў. Каля 200 дзяцей аздараўліваліся і будуць прадаўжаць аздараўленне ў краінах далёкага замежжа, найперш у Італіі і Іспаніі, а таксама ў Германіі, Англіі, Францыі, Польшчы і некаторых іншых краінах.

Штогод у раёне працуюць прышкольныя летнікі адпачынку. Гэтай формай аздараўлення сёлета будзе ахоплена 1500 дзяцей, па сутнасці, кожны трэці вучань.

У мінулым годзе ўпершыню была ўведзена практыка аздараўлення дзяцей дашкольнага ўзросту (196 дзяўчынак і хлопчыкаў) на базе дашкольных дзіцячых устаноў з кругласутачным знаходжаннем выхаванцаў. Да гэтага спачатку вельмі асцярожна аднесліся некаторыя бацькі. Але пасля пераканаліся - цудоўна, і дзеці-дашкалята таксама былі задаволены. Сёлета будзе такім жа шляхам аздароўлена 160 чалавек. Запланавана таксама аздаравіць 36 дзяцей-сірот. А 30 вучняў з Іўеўскай дапаможнай школы-інтэрната - а гэта пераважна дзеці з маламаёмасных, праблемных, няпоўных сем'яў - і дзеці маці-адзіночак ужо аздараўліваюцца і адпачываюць адразу пасля заканчэння навучальнага года.

Для іх створаны адпаведныя ўмовы, павялічана сума грошай на харчаванне на 635 рублёў. Да таго ж яны атрымліваюць вітаміны, кошт якіх не ўваходзіць у гэтую суму. Свежая гародніна (капуста, радыска, агуркі, цыбуля, нават заморскія далікатэсы) - штодзённа на сталах.

Умацаванню здароўя дзяцей, як вядома, спрыяюць і заняткі спортам. Сёлета больш за дзве тысячы вучняў сярэдніх і базавых школ прынялі ўдзел у фінальных стартах XVI раённай круглагадовай спартакіяды. У праграму спартакіяды былі ўключаны спаборніцтвы па мнагабор'і дапрызыўніка, асеннім і вясеннім кросах, баскетболу, валейболу, футболу, гандболу, настольнаму тэнісу, лёгкай атлетыцы. Перамаглі, як кажуць, мацнейшыя: сярод сярэдніх школ прызавыя месцы заваявалі адпаведна вучні Юрацішкаўскай, Іўеўскай і Трабскай, а сярод базавых - школьнікі Пятровіцкай, Сторчаняцкай і Карпавіцкай школ.

## Ужо залічаны ва ўніверсітэт

**_Аксана Казлоўская, выпускніца Бобравіцкай сярэдняй школы, шчаслівая, што ёй пашанцавала на рэспубліканскай алімпіядзе па англійскай мове выступіць паспяхова і атрымаць дыплом III ступені._**

А гэта значыць, што Аксана, вучаніца перыферыйнай сельскай школы, ужо залічана студэнткай Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, хоць ёй яшчэ трэба было папацець, пахваляваца, каб здаць экзамены за курс сярэдняй школы. І яна паспяхова з гэтым справілася. Не адмаўляю частковага шанцавання ў час алімпіяды, але будзем шчырымі і справядлівымі: Аксана атрымала заслужаную ўзнагароду за штодзённую старанную працу, прычым шматгадовую.

Відаць, дзяўчына, як кажуць, пайшла ў маці, якая працуе ў Бобравіцкай сярэдняй школе завучам і выкладае англійскую мову.

## Прытулак - патрабаванне дня

**_Як і ўвогуле па ўсёй Беларусі, у Іўеўскім раёне з году ў год павялічваецца колькасць сацыяльных сірот. Калі, напрыклад, у мінулым годзе іх было 69, дык сёлета - 72, хоць палова года яшчэ наперадзе._**

Праблема сацыяльнага сіроцтва ў раёне стаіць вельмі востра, хоць аддзел адукацыі райвыканкама і, у прыватнасці, служба па ахове дзяцінства стараюцца і часткова знаходзяць шляхі для яе вырашэння, дапамагаюць тым дзецям, якія аказаліся ў цяжкіх, экстрэмальных умовах. Адных удаецца ўладкоўваць у Парэцкую школу-інтэрнат Гродзенскага раёна для дзяцей-сірот, другіх - усынавіць, накіроўваць у апякунскія і прыёмныя сем'і, колькасць якіх дзякуючы добрым, сардэчным, спагадлівым людзям з году ў год павялічваецца. За апошні час шэсць дзяўчынак і хлопчыкаў усынавілі, чацвёра аказаліся ў прыёмных сем'ях з вёсак Морынь, Даўнары, Трабы і Геранёны. Аднак, паўтару, праблема стаіць востра і патрабуе свайго вырашэння на больш высокім узроўні, чым мясцовая ўлада.

Па-першае, у Іўі тэрмінова трэба адкрыць сацыяльна-педагагічны цэнтр, работнікі якога, пераважна псіхолагі, сацыяльныя педагогі, аказвалі б сацыяльна-педагагічную дапамогу праблемным сем'ям і самім дзецям. Разам з тым у райцэнтры трэба адкрыць дзіцячы сацыяльны прытулак. Пра ўсё гэта клапоцяцца работнікі аддзела адукацыі і падрыхтавалі адпаведную дакументацыю. Але ўся справа ўпіраецца ў фінансавыя пытанні.

З вырашэннем справы ў райцэнтры не было праблемы з педагагічнымі кадрамі, як і з памяшканнямі. Як часовае выйсце са становішча бачыцца наступнае: кватараваць як дзіцячы прытулак, так і сацыяльна-педагагічны цэнтр маглі б у адным з гарадскіх дзіцячых садкоў і дапаможнай школе-інтэрнаце.

Дадам ад сябе: я лічу, як і многія мае знаёмыя, з кім даводзілася размаўляць на гэтую тэму, што трэба, і зноў жа тэрмінова, прыняць закон аб адказнасці бацькоў за выхаванне ўласных дзяцей. Чаму, даруйце, мы, падаткаплацельшчыкі, павінны гадаваць дзяцей п'яніц, алкаголікаў, гультаёў, правапарушальнікаў? Мала таго, што іх пазбаўляюць бацькоўскіх правоў - іх гэта зусім не палохае. Іх трэба ці пазбаўляць волі, ці ў прымусовым парадку адпраўляць зарабляць грошы, каб за ўтрыманне дзяцей разлічыцца з дзяржавай. Толькі суровае пакаранне бацькоў зможа хоць часткова вырашыць праблему сацыяльнага сіроцтва.

## Узнагароды за экалагічную працу

**_Школы раёна ўдзяляюць належную ўвагу экалагічнаму выхаванню школьнікаў. Адмысловымі эколагамі аказаліся вучні з Юрацішкаўскай і Трабскай сярэдніх школ. Яны і прынялі ўдзел у рэспубліканскай экалагічнай акцыі "Дзень Зямлі. Беларусь-2002"._**

Дыпломам І ступені ўзнагароджана ўдзельніца акцыі з Юрацішкаўскай сярэдняй школы Аксана Дуніч за экалагічны праект "Зберагчы свет вакол нас". Дыпломам ІІ ступені ўзнагароджана Вольга Васілеўская з Трабскай сярэдняй школы за ўдзел у конкурсе аўтараў і выканаўцаў песень і вершаў "Сярэбраныя струны".

Адзінаццаць падзячных пісьмаў атрымалі школьнікі за ўдзел у фотаконкурсе, конкурсе вершаў, легенд і паданняў аб роднай Іўеўшчыне.

**Іван ГОВАР.**

# Купляйце беларускае!

## Усе падрабязнасці пра картаграфічныя сродкі навучання, якія не адпавядаюць сённяшнім вучэбным праграмам

Вядома, які ажыятаж узнікае напярэдадні новага навучальнага года ў сувязі з адсутнасцю ў кнігарнях атласаў і контурных карт, так неабходных школьнікам у навучальным працэсе. Аб іх з надзеяй распытваюць, іх патрабуюць, шукаюць на кніжных кірмашах і ў латках... І гэты попыт у значнай ступені задавальняецца картаграфічнай прадукцыяй, якая не адпавядае структуры і зместу зацверджаных Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь вучэбных праграм. Вось і зараз, напрыканцы навучальнага года, як гаворыцца, загадзя такія камплекты атласнай і контурнай карт былі прапанаваны ў якасці дапаможных матэрыялаў па гісторыі (5-9 класы) і геаграфіі (6, 7, 10 класы) вучням агульнаадукацыйных школ расійскім унітарным прадпрыемствам "Производственное картосоставительное объединение "Картография" і беларускім таварыствам з абмежаванай адказнасцю "Интерпрессервис".

Для таго, каб у рэшце рэшт назаўсёды вырашыць набалелае пытанне, што рабіць з такімі выданнямі, ці могуць яны выкарыстоўвацца школьнікамі на занятках і быць рэкамендаваны для продажу, Міністэрства інфармацыі накіравала адпаведны запыт Міністэрству адукацыі. І вось атрыманы афіцыйны адказ, у якім вынесены канчатковы вердыкт аб непрыгоднасці названых камплектаў у навучальным працэсе школ Беларусі і немэтазгоднасці іх рэалізацыі праз гандаль. І перш за ўсё таму, што гэтыя выданні дэзарыентуюць настаўнікаў гісторыі і геаграфіі, а таксама бацькоў школьнікаў у выбары карт і атласаў.

Зацікаўленым жа ў больш падрабязнай інфармацыі і тлумачэннях будзе карысным даведацца, што ў базавым вучэбным плане агульнаадукацыйнай школы Беларусі няма курсаў, якія пазначаны ў назвах атласаў і дастасаваных да іх контурных картах, якія падрыхтавала да друку Федэральная служба геаграфіі і картаграфіі Расіі. Спецыялісты міністэрства ўносяць удакладненні ў адносінах да кожнага картаграфічнага сродку навучання, што дазваляе высветліць усе яго хібы і неадпаведнасці сённяшнім праграмам.

Так, напрыклад, атлас "Физическая география. Начальный курс" (6 клас) уключае, але не ў поўным аб'ёме, традыцыйныя для гэтага курса фізіка-геаграфічныя карты, аднак поўнасцю не ўлічвае змест раздзела III "Население Земли и его хозяйственная деятельность", на вывучэнне якога адводзіцца 30 працэнтаў вучэбнага часу ў праграме "Начальный курс географии".

У атласе "География материков и океанов" (7 клас) набор карт і парадак іх размяшчэння не адпавядаюць патрабаванням праграмы "География материков и стран". Атлас змяшчае карты мацерыкоў Паўночная Амерыка і Еўразія, якія ў гэтым класе не вывучаюцца. Адсутнічаюць комплексныя карты па асобных краінах, якія прадугледжаны праграмай для вывучэння (яны змешчаны ў атласе для 10 класа).

Атлас "Экономическая и социальная география мира" (10 клас) можа быць выкарыстаны часткова пры вывучэнні раздзела IV "Политическая карта мира. Население мира. Мировое хозяйство и всемирные экономические отношения" курса "Общая география". У атласе не адлюстраваны іншыя раздзелы гэтага курса (50,8 працэнта вучэбнага часу).

Камплекты контурных карт па геаграфіі (6, 7, 10 класы) не адпавядаюць зместу праграм, падручнікаў і навучальных дапаможнікаў. Яны прымітыўныя па сваёй канструкцыі і зместу. На іх паказаны толькі контуры геаграфічных аб'ектаў, лініі рэк, дзяржаўныя граніцы, пунсоны гарадоў, адсутнічае сістэма заданняў і пытанняў. Карты нясуць адну і тую ж нагрузку як для вучняў малодшых класаў, так і старэйшых.

У сваю чаргу атласы па гісторыі з'яўляюцца кампіляцыяй атласаў 80-х гадоў XX ст. Тэматыка карт і парадак, у якім яны размешчаны, вызначаны праграмай па курсу "Всемирная история", прынятай Міністэрствам адукацыі СССР у 1985 годзе.

Атлас "История средних веков" (6 клас) ахоплівае перыяд часу з VI па XVII стст., змест жа праграмы і падручніка прадугледжвае другі перыяд - з V па XV стст. У атласе адсутнічае раздзел II "Славянский мир", на вывучэнне якога ў праграме адводзіцца 7 гадзін вучэбнага часу. Атлас не ілюструе наступных падзей: "Великое переселение народов", "Католическая церковь", "Японская цивилизация", "Цивилизация тропической Африки и Америки" і інш. Наогул адсутнічаюць карты па культуры і паўсядзённым жыцці чалавека сярэдневякоўя. У атласе змешчаны чатыры карты: "Начало капиталистического развития в Англии в XVI в.", "Франция в XVI- XVII вв.", "Центральная Европа в XVI в. Реформация"; "Нидерландская буржуазная революция в XVI в.", змест якіх адпавядае наступнаму - 7 класу.

Атлас "Новая история с середины XVII века до 1870 года" (7 клас) таксама не ўпісваецца ў перыяд часу, прадугледжанага вучэбнай праграмай, г.зн. XVI-XVIII стст. Атлас не мае раздзела III "Россия и славянские страны" (14 гадзін), у той час як утрымлівае шэраг карт, напрыклад, "I Интернационал (1864-1876 гг.)" і інш., тэматыка якіх не прадстаўлена ў праграме і падручніку.

Карты атласа "Новая история с 1870 да 1918 года" (8 клас) часткова адлюстроўваюць перыяд (1800-1918 гг.), які вывучаецца ў 8 класе. Атлас не ўключае раздзела III "Российское государство. Славянские страны" (13 гадзін). Прадстаўленыя карты ілюструюць гісторыю гэтага перыяду аднабакова - "Парижская коммуна 1871 г.", "Международное и социалистическое движение в Европе в 1871-1914 гг." і г.д.

Атлас "Новейшая история зарубежных стран" (9 клас) часткова адпавядае праграме па гісторыі 9 класа. Ён не мае раздзелаў, прысвечаных вывучэнню гісторыі Расіі - СССР (раздзел II. Тэма 8. "Советская Россия и СССР" (5 гадзін); раздзел IV. Тэма 12. "Советский Союз в 1945-1991 гг." (3 гадзіны)).

Камплекты контурных карт па геаграфіі (5, 6, 7, 8, 9 класы) не адпавядаюць зместу праграмы, падручнікаў і навучальных дапаможнікаў. Метадычныя пытанні і заданні не адпавядаюць зместу падручнікаў, адсутнічае разнастайнасць заданняў, не ўлічаны ўзроставыя асаблівасці вучняў.

Вось такая сітуацыя... Але яна папраўная. У бліжэйшы час у продаж паступяць контурныя карты, падрыхтаваныя РЦП "Белкартография" Камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, што дапаможа прадухіліць паяўленне на кніжным рынку рэспублікі кантрафактнай і нізкаякаснай картаграфічнай прадукцыі. Атласы будуць выдавацца згодна з зацверджаным Міністэрствам адукацыі і Камітэтам па зямельных рэсурсах, геаграфіі і картаграфіі тэматычным планам выпуску вучэбных (насценных) карт і атласаў на перыяд 2001-2006 гг. і пастаўляцца ў школы бясплатна.

**Алена ШЫЦІК.**

Працяг размовы

# "Вы сабе пярэчыце, прафесар!"

***Узяцца за пяро мяне прымусіў артыкул прафесара Яўгена Новіка "Без права на памылкі", надрукаваны ў "НГ" 20.04.02, №49. Аўтар аналізуе гістарычны дапаможнік па гісторыі Беларусі для вучняў 9 кл., аўтары - У.Н.Сідарцоў, В.М.Фамін, С.В.Паноў.***

Паважаны прафесар Я.Новік, дазвольце не пагадзіцца з вамі.

Па-першае, толькі той не памыляецца, хто не працуе.

Па-другое, пра памылкі, якія ёсць. А яны ёсць, але, лічу, яны неістотныя і не закранаюць аналізу гістарычнай сутнасці. Я як вопытны настаўнік-практык даўно іх выправіў, яшчэ ў 1997 годзе, калі атрымаў дапаможнік. Так зрабілі і многія мае калегі. Мы сустракаемся і абмяркоўваем дапаможнікі на метадычных аб'яднаннях.

Па-трэцяе. На сённяшні дзень, нягледзячы на ўсе недахопы - **лічу, гэта лепшы гістарычны дапаможнік па гісторыі савецкага перыяду 1917-1996** гг. Працаваць з ім любяць як настаўнікі, так і вучні, чаго нельга, на вялікі жаль, сказаць пра ваш дапаможнік для 11 класа. Я ў лютым 2002 г. быў на курсавой перападрыхтоўцы у Гродна, і ўсе настаўнікі-гісторыкі Гродзеншчыны, а іх было больш за 30 чалавек, моцна крытыкавалі ваш дапаможнік і адзначалі як лепшы дапаможнік для 9 класа У.Н.Сідарцова. Так што не трэба выступаць, паважаны прафесар Я.Новік, ад імя усіх настаўнікаў, як вы гэта робіце ў сваіх вывадах і прапановах.

Па-чацвёртае. Дапаможнік У.Сідарцова, В.Фаміна, В.Панова так метадычна скампанаваны, што прымушае вучня на ўроку гісторыі думаць, школьнікі самастойна прывучаюцца аналізаваць гістарычныя падзеі, факты, параўноўваць іх, звязваць з сучасным жыццём і рабіць свае высновы. А гэта - галоўнае ў нашай працы. Задача настаўніка гісторыі - сфарміраваць і выхаваць на аснове аб'ектыўных гістарычных фактаў разумнага патрыёта і грамадзяніна сваёй роднай Бацькаўшчыны, а не "зашоранага" ідэалагічнага дагматыка. Мы павінны ачысціць гістарычную навуку ад -ізмаў. Мы ведаем, да чаго прыводзілі чалавецтва ідэалагічныя -ізмы (фашызм, шавінізм, сіянізм, камунізм, мааізм). Гісторыя павінна стаць навукай, а не ідэалогіяй разбурэння. Няўжо мы ніколі так і не навучымся на чужых і сваіх трагічных памылках?



Па-пятае. Паважаны прафесар Я.Новік! Вы і самі дапускаеце памылкі ў сваім "аналізе". Цытую вас: "На 86 ст. напісана: "Бітва на Курскай дузе (ліпень 1943 г.), якая завяршыла карэнны пералом у вайне". І вы далей пішаце: "Тут грубейшая гістарычная памылка, бо карэнны пералом у вайне завяршыўся не ў ліпені 1943 г. бітвай на Курскай дузе, а ў другой палове 1943 г. і ён звязаны з разгромам фашыстаў на Курскай дузе, летне-асеннім наступленнем Чырвонай Арміі ў 1943 годзе, вызваленнем Левабярэжнай Украіны і сталіцы Савецкай Украіны г.Кіева. Новы, завяршальны этап вайны пачынаецца з 1944 года". Вы чамусьці замоўчваеце гістарычны факт, прыведзены аўтарамі падручніка на ст.88. Цытую: "Першы этап рэйкавай вайны праводзіўся ў пачатку жніўня, калі савецкія войскі распачалі контрнаступленне пад Курскам". Дык што? Ліпень-жнівень ці другая палова 1943 г.? Вы, прафесар, самі сабе супярэчыце і блытаеце гістарычныя паняцці "завяршыла карэнны пералом" з паняццем "завяршальны этап вайны". Гэта розныя паняцці!

Паважаны прафесар Я.Новік! Маршал Г.К.Жукаў у сваіх "Воспоминаниях и размышлениях" (М. 1969 г.) аб Курскай бітве пісаў: "Разгром немецко-фашистских войск под Курском имел крупнейшее международное значение и поднял авторитет Советского Союза". І далей: "25 августа я был вызван в Ставку для абсуждения обстановки и дальнейших задач общего наступления советских войск, которое после разгрома немецких войск под Курском развертывалось широким фронтом". А гэта ўжо, паважаны прафесар, пачатак вялікага наступлення.

У сваёй навуковай і выхаваўчай дзейнасці мы павінны кіравацца галоўным маральным прынцыпам, сфармуляваным славутым нямецкім філосафам І.Кантам: "Паводзь сябе так, каб ты заўсёды ставіўся да чалавецтва, і ў сваёй асобе, і ў асобе ўсякага іншага, гэтак жа, як да мэты, і ніколі не ставіўся б да яго толькі як да сродку".

**Леанід ГАЎРЫЛКЕВІЧ,**
**настаўнік гісторыі вышэйшай катэгорыі, настаўнік-эксперыментатар гуманістыкі 1995-1998 гг. Вішнеўскай сярэдняй школы Смаргонскага раёна.**

# Такая складаная філасофская чытанка

***З сярэдзіны 90-х гадоў як настаўнік-эксперыментатар я вёў у школе курс "Гуманістыкі" (цяпер - "Чалавек. Грамадства. Дзяржава"). Нагадаю, што ў 8-11 класах вывучаюцца такія раздзелы курса, як "Мой свет", "Свет людзей", "Свет сацыяльнага дзеяння" і "Чалавек у свеце культуры". На практыцы атрымалася так, што эксперыментам былі ахоплены вучні класаў адной паралелі, а іншыя школьнікі вывучалі курс "Чалавек і грамадства" па расійскіх падручніках (10-11 класы - вучэбны дапаможнік пад рэд. Л.Н.Багалюбавай, А.Ю.Лазебнікавай). Вось ужо трэці навучальны год 8-10 класы вывучаюць новы рэспубліканскі курс.***

На жаль, падручнікі з году ў год істотна спазняюцца. Летась падручнікі для 9-х класаў паступілі толькі ў трэцяй чвэрці (!), а сёлета ў гэты ж час для 10-х класаў. Не дзіўна, што многія настаўнікі адмовіліся ад рэспубліканскай праграмы і вядуць курс па расійскіх праграмах і падручніках (я гавару пра шэраг школ Гомеля). Але ж зусім нядаўна Прэзідэнт рэспублікі праводзіў спецыяльную нараду па падручніках, у тым ліку па падручніках для гуманітарных курсаў. Аднак праблема застаецца.

У гэтым навучальным годзе вучні і настаўнікі апынуліся ў яшчэ больш складанай сітуацыі. Я гавару не толькі пра сябе і сваіх вучняў. Упэўнены, з падобнай праблемай сутыкнуліся многія школы. У рэспубліканскім зборніку экзаменацыйных матэрыялаў даюцца білеты па прадмету "Чалавек. Грамадства. Дзяржава" (Беларусь) і па курсу "Чалавек і грамадства" (Расія). Здавалася б, выпускнікі атрымалі магчымасць выбару. Але экзаменацыйны матэрыял, які выходзіць у розных выданнях, арыентуе вучняў толькі на расійскія падручнікі. Але і гэта яшчэ не ўсё!

Сёлета два мае выпускнікі (юнак і дзяўчына) будуць здаваць экзамен па "Чалавеку і грамадству" ў ВНУ (Акадэмія міліцыі ў Мінску і Гомельскі дзяржаўны універсітэт). Дзяўчынка займаецца на падрыхтоўчым аддзяленні. Як вы думаеце, універсітэцкі курс падобны да таго, які вывучаецца на працягу чатырох гадоў у школе? Зусім не падобны! Юнак падрыхтоўчыя курсы не наведвае, але займаецца па дапаможніку для абітурыентаў, выдадзеным у Мінску. Гэты дапаможнік таксама далёкі ад зместу школьнага курса і да таго ж вельмі цяжкі для ўспрымання. Матэрыял у ім выкладаецца навуковай мовай, шмат філасофскіх тэрмінаў. Нават для настаўніка з вышэйшай адукацыяй гэтая філасофская "чытанка" складаная.

Ствараецца ўражанне, што аўтары наогул не пацікавіліся зместам грамадазнаўчага курса, які вывучаюць школьнікі. Няхай гэта будзе ўскладнены варыянт з сучаснай навуковай тэрміналогіяй, але абавязкова даступны, які павінен улічваць тое, што дзеці вывучаюць у школе. Інакш гэта, па сутнасці, будзе новы курс. Які па ліку?

Калісьці ў савецкі час выпускнікі вывучалі курс "Грамадазнаўства". Там пытанні філасофіі (у марксісцкай інтэрпрэтацыі) падаваліся даступна (матэрыялізм і ідэалізм, законы філасофіі, пытанні дыялектыкі і г.д.).

Я хачу спытаць у работнікаў Міністэрства адукацыі, навукоўцаў-аўтараў курсаў для абітурыентаў-2002 года: **дык колькі курсаў па аднаму (!) прадмету трэба вывучаць выпускніку** школы на працягу аднаго навучальнага года? Атрымліваецца, што курс, які вывучаецца ў школе (беларускі), зусім не патрэбны тым вучням, якія збіраюцца паступаць у ВНУ і здаваць уступныя экзамены па "Чалавеку і грамадству". Выкладаць гэтым старшакласнікам асобны (расійскі) курс? А хто і як будзе аплачваць гэтую дадатковую працу настаўнікаў? І нарэшце, дзе гарантыя таго, што школьны курс па "Чалавеку і грамадству", які вывучаецца дадаткова, спатрэбіцца пры паступленні ў ВНУ? Неабходна **уніфікаваць курс па гэтаму прадмету для школы і ВНУ, выдаць адпаведны дапаможнік, каб настаўнік меў магчымасць рыхтаваць свайго выпускніка да паступлення.**

Ёсць яшчэ адзін варыянт: зрабіць адзнаку па прадмету адзінай для школы і ВНУ. Па такому шляху вырашылі пайсці ў Расіі. Можна на экзамен у школу (калі выпускніку трэба будзе на ўступных экзаменах у ВНУ здаваць гэты прадмет) запрашаць работнікаў аддзела адукацыі, вышэйшых навучальных устаноў і г.д. І ніякага ўступнага экзамену! Даведку аб здадзеным экзамене з адзнакай павінен выдаць адпаведны раённы аддзел адукацыі.

Гэта маё ўласнае меркаванне наконт праблем, якія хвалююць настаўніка-практыка. А як да іх ставяцца ў Міністэрстве адукацыі, а таксама навукоўцы і выкладчыкі ВНУ?

Сёння цяжэй за ўсё вучню. Але не намнога лягчэй і яго настаўніку!

**Міхаіл КАН,**
**настаўнік гісторыі вышэйшай катэгорыі Красненскай сярэдняй школы Гомельскага раёна.**

# Гісторыю не трэба сачыняць

***І сёння, на жаль, падручнікі па гісторыі даюць вучням скажонае ўяўленне пра мінулае Беларусі. Вучоны павінен быць аб'ектыўным, педантычным, не дапускаць у сваёй працы неахайнасці і разгільдзяйства.***

Пасля жнівеньскага (1991 г.) антысавецкага перавароту адбыліся вельмі сур'ёзныя трансфармацыі ў гістарычнай навуцы. Апрача напрамку сацыялістычнай арыентацыі, які склаўся пры Савецкай уладзе, з'явіўся ў Беларусі антынавуковы буржуазна-нацыяналістычны напрамак з яго антысаветызмам, беларускім нацыяналізмам і русафобіяй.

З пазіцый гэтага антысацыялістычнага напрамку былі напісаны нанава амаль усе падручнікі па гісторыі Беларусі для сярэдняй школы. Яны перавыдаваліся, але да гэтага часу даюць вучням скажонае ўяўленне аб мінулым Беларусі. Такая фальсіфікацыя падзей і фактаў назіраецца ў падручніках для 6, 7, 8, 9, 10 класаў. Праўдзіва напісаны толькі падручнік для 5-га і 11-га класаў.

На сур'ёзныя недахопы падручнікаў па гісторыі Беларусі для сярэдняй школы вельмі пільную ўвагу звярнуў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка. Ён неаднаразова крытыкаваў іх, падкрэсліваючы, што Беларусь дасягнула выдатных поспехаў пры Савецкай уладзе і што нельга адкідваць дасягненні савецкай гістарычнай навукі. Аднак аўтары, рэдактары і былое кіраўніцтва Міністэрства адукацыі працягвалі перавыданні заганных падручнікаў для 6-10 класаў.

Аўтар гэтага артыкула як гісторык-навуковец, як былы настаўнік з сярэдняй і вышэйшай педагагічнай адукацыяй, таксама крытыкаваў фальсіфікатараў гісторыі. Гэта найбольш актыўна адбывалася на пасяджэннях Мінскай навуковай арганізацыі "Гістарычныя веды" Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў, а таксама ў друкаваных артыкулах і асобных выданнях.

Асаблівую ролю ў крытыцы падручнікаў адыграла навукова-практычная канферэнцыя на тэму "Роля выкладання гісторыі ў патрыятычным і маральным выхаванні навучэнскай моладзі", якая адбылася 14 мая 2001 года. У яе правядзенні прынялі ўдзел сем грамадскіх арганізацый, там прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, Мінгарвыканкама і каля 200 настаўнікаў.

На пачатку канферэнцыі быў заслуханы мой даклад "Два асноўныя напрамкі ў гістарычнай навуцы Рэспублікі Беларусь і іх уплыў на змест падручнікаў па гісторыі Беларусі для агульнаадукацыйнай школы". Тут, а таксама ў іншых дакладах і выступленнях было паказана, што самым заганным дапаможнікам з'яўляецца "Гісторыя Беларусі" для 9 класа. Матэрыялы канферэнцыі былі выдадзены асобнай брашурай.

У студзені 2002 г. у ЦДА адбылася навукова-практычная канферэнцыя, у арганізацыі якой удзельнічалі Міністэрства абароны і Міністэрства адукацыі. Там быў заслуханы і абмеркаваны мой даклад "Падручнікі гісторыі Беларусі і выхаванне патрыятызму". У цэнтры крытыкі даследчыка і ўсіх, хто выступаў, зноў быў дапаможнік па гісторыі Беларусі для 9 класа.

Аднак час ішоў, але крытыка падручнікаў па гісторыі Беларусі не атрымлівала "афіцыйнага" прызнання ў Міністэрстве адукацыі. Таму прагрэсіўная, патрыятычная грамадскасць Рэспублікі Беларусь з вялікім задавальненнем успрыняла, як выдатную падзею, сустрэчу Прэзідэнта нашай краіны 24 красавіка 2002 года з аўтарскімі калектывамі вучэбнай літаратуры па праблемах гісторыі, філалогіі, грамадазнаўства. Звяртаючыся да ўдзельнікаў сустрэчы, Прэздэнт падкрэсліў, што нам не трэба сачыняць новую гісторыю ў залежнасці ад палітычных схільнасцей аўтараў або асобных груповак".

Таму правільна зрабіла "Настаўніцкая газета", калі напярэдадні гэтай сустрэчы, 20 красавіка, апублікавала артыкул прафесара Я.К.Новіка "Без права на памылку", у якім дадзены падрабязна навуковы аналіз карэнных недахопаў вучэбнага дапаможніка "Гісторыя Беларусі" для 9 класа - аўтары У.Н.Сідарцоў, В.М.Фамін, С.В Паноў. Рэцэнзент зрабіў 69 крытычных заўваг са спасылкай на адпаведныя старонкі дапаможніка, паказаўшы, што ён скрозь, ад пачатку да канца, заганны і робіць вялікую шкоду ў выхаванні вучняў.

Цалкам пагаджаючыся з крытычнымі выказваннямі прафесара Я.К.Новіка (толькі ў 34, 65, 68 заўвагах варта было б зрабіць некаторыя ўдакладненні), я хацеў бы дадаткова паведаміць наступнае. Калі прафесар Я.К.Новік зрабіў крытычны агляд дапаможніка па выданню 1997 года, то я яго аналізаваў па другому выданню (1999 г.). Аднак аказалася, што асноўныя заганы дапаможніка (наўмыснае ачарненне калектывізацыі, неразуменне характару палітычных рэпрэсій, скажэнне падзей Вялікай Айчыннай вайны, адмаўленне ў СССР сапраўднага сацыялізму) паўтараюцца ў абодвух выданнях аж да супадзення паасобных старонак. Гэта азначае, што аўтары і "навуковы" рэдактар прафесар М.С.Сташкевіч нават і не збіраюцца мяняць сваіх заганных пазіцый...

Але вось ужо праз два дні пасля публікацыі артыкула прафесара Я.К.Новіка "Настаўніцкая газета" 23 красавіка змясціла "рэцэнзіі" дацэнта Б.М.Іванчука (Гродзенскі дзяржуніверсітэт) і прафесара А.А.Кавалені (БДПУ). На жаль, абодва аўтары памылкова зразумелі ролю рэцэнзентаў падручніка. Яны далі агульную станоўчую ацэнку дапаможніку, нягледзячы на вялізную колькасць памылак, у тым ліку фактаграфічных. Але ж гэта можна рабіць толькі ў дачыненні да манаграфіі (з пэўнымі агаворкамі), калі ў ёй паспяхова вырашаецца не вядомая раней у гістарычнай навуцы праблема. І то ў такіх выпадках фактаграфічныя памылкі рэзка асуджаюцца або, прынамсі, з'едліва высмейваюцца.

У падручніку ж поўнасцю выключаецца права на фактаграфічныя памылкі. Вучні павінны цвёрда запамінаць толькі дакладна ўстаноўленыя факты. Неразуменне гэтага яскрава паказаў дацэнт Б.М.Іванчук, калі стаў весці размову пра "чытача" дапаможніка, забываючы, што гэта вучань, а не адукаваны дарослы чытач, які шукае ў даведніках абвяржэнне аўтарскай фактаграфічнай хлусні.

А прафесар А.А.Каваленя нават пачаў спачуваць аўтарам дапаможніка, якім "пасля распаду СССР" (гэта быў развал СССР. - А.З.) "востра неставала неабходнага факталагічнага (?) матэрыялу..." Працягваючы думку прафесара, А.А.Кавалені, я вымушаны дадаць: вось аўтары дапаможніка і ўзяліся "выдумляць новыя", "не існуючыя факты", быццам Я.М.Свярдлоў быў старшынёй Урада РСФСР (с. 26 - тут і далей па выданню 1999 года), быццам лётчык В.В.Талаліхін паходзіў з Беларусі (с. 76), быццам балгарка Л.Карастаянава - Герой Савецкага Саюза і г.д., і да т.п.

Дык дзе ж тут задавальненне інтарэсаў вучняў, іх бацькоў, патрэб дзяржавы? Вучоны павінен быць аб'ектыўным, педантычным, не дапускаць у сваёй працы неахайнасці і разгільдзяйства.

І вось такому здзеку над дапаможнікам па гісторыі Беларусі для 9 класа рэцэнзенты дацэнт Б.М.Іванчук і прафесар А.А.Каваленя даюць станоўчую ацэнку, ды яшчэ рэкамендуюць як "арыенцір для іншых". Але мы павінны аберагаць гістарычную навуку ад такіх арыенціраў.

Аднак аб несур'ёзнасці рэцэнзентаў сведчыць яшчэ і тое, што яны самі ў сваіх артыкулах дапусцілі памылкі і нават фактаграфічныя. Так, дацэнт Б.М.Іванчук павёў гаворку пра нейкае "парушэнне" (?) вытворчых адносін у савецкія часы. А прафесар А.А.Каваленя дапусціў недакладнасць у вызначэнні агульнай колькасці ўдзельнікаў узрослай барацьбы супраць фашысцкіх акупантаў у іх тыле. Ён назваў 374 тысячы партызан, але "забыўся" пра 70 тысяч падпольшчыкаў, ды прыплюсаваў 400 тысяч чалавек партызанскіх рэзерваў. Але ж з іх 150 тысяч уступілі ў партызанскія фарміраванні і трапілі ў партызанскую статыстыку (374 тысячы чалавек). З партызанскіх рэзерваў можна плюсаваць у агульную суму ўдзельнікаў узброенай барацьбы толькі 250 тысяч чалавек. Такім чынам агульная сума ўдзельнікаў узброенай барацьбы атрымліваецца з наступных складаемых: 374+70+250= 694 тысячы чалавек.

Мы з прафесарам А.А.Каваленем некалькі месяцаў таму назад удзельнічалі ў падрыхтоўцы калектыўнай брашуры, дзе ёсць усе гэтыя лічбы. Таму іх ігнараванне яшчэ раз сведчыць аб несур'ёзных адносінах да рэцэнзаванага згаданага дапаможніка для 9 класа.

Такім чынам, рэцэнзенты дацэнт Б.М.Іванчук і прафесар А.А.Каваленя сваім услаўленнем фальсіфікатараў абсалютна не абверглі добрасумленную крытыку, якую прафесар Я.К.Новік выказаў у дачыненні да дапаможніка для 9 класа.

Рэальныя факты сведчаць аб тым, што аўтары і рэдактар дапаможніка "Гісторыя Беларусі" для 9 класа не хочуць пакідаць сваіх заганных пазіцый. Таму яны не здольны напісаць аб'ектыўны падручнік. Гэтую адказную задачу зможа выканаць толькі зусім новы, добрасумленны аўтарскі калектыў.

**Адам ЗАЛЕСКІ,**
**акадэмік Міжнароднай Славянскай Акадэміі, доктар гістарычных навук, прафесар, старшыня Рэспубліканскай арганізацыі "Гістарычныя веды" Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў.**

